АНАҐРАФЫ ANAGRAPHS

No. 2-3 NOVEMBER 1978-1979

## З АНТЫЧНАЕ ГРЭЦКАЕ КЛЯСЫКІ

У нядзелю, 14 студзеня 1979 г. у Меснай Ґалярэі Мастацтва пры Кальледжу Санта Фэ ў Ґэйнсвільл /Флярыда/, была адчынена Выстаўка пад назовам "Скарбы Кіпросу".
Выстаўка налічвала 178 экспанатаў, якія адлюстроўвалі блізка 8.000 гадоў кіпроскага мастацтва і культуры. Яна агортвала сваім зьместам усе пэрыяды кіпроскіх скарбаў, у ліку 19-ці пэрыядаў у хронолёґічным парадку, пачынаючы ад найболей раньняга /5.800-5.250 гг. п.н.э./- нэолітычнага і, канчаючы апошнім з нашага часу /1960 г./ - апавяшчэньнем Дэклярацыі Незалежнасьці Кіпроскае Рэспублікі.
Тыя, што цікавіліся грэцкаю мінуўшчынаю, мелі нагоду падыйсьці бліжэй да гэльленістычнае культуры і мастацтва наагул, і да асягненьняў у гэтым кірунку Кіпросу ў вапрычонасьці.
У першарадным выданьні багата ілюстраванага на 78 бачынах друку, які служыў дапаможным матэрыялам для наведвальнікаў Выстаўкі, знаходзім сярод іншага Уводзіны да Выстаўкі, напісаныя Патроклёсам Стаўру, афіцыяльным прадстаўніком сучаснае грэцкае палітычнае рэчаіснасьці.
Можна спадзявацца, што выказваньні прадстаўніка гэльленістычнае культуры, якія ніжэй падаюцца ў цэласьці, выклічуць у сэрцы беларускага чытача жывое рэха ўласнае культурна-гістарычнае аналёгіі.

## УВОДЗІНЫ

Гэтая мастацкая Выстаўка пад назовам Скарбы Кіпросу зьяўляецца пазытыўным водклікам кіпроскага ўраду на запросіны ўраду Злучаных Штатаў да жыхароў аб токі, прыняць удзел у сьвяткаваньні Двухсотлецьця Амэрыканскае Рэвалюцыі. Мы прыймаем удзел у гэтых урачыстасьцях дарогаю рэпрэзэнтацыйнае калекцыі прац мастацтва з нашае багатае культурнае спадчыны, якая адсланяе пару́ васьмі тысяч гадоў. Гэтая культурная выяўленчасьць творыць сабою найлепшае адлю-

**ANAGRAPHS** — Official Publication of John and Alice Piotrowski
**Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.**

*Non-Profit, Tax Exempt Organization*
*Editor:* Dr. George Piotrowski
*Mailing Address:* 1716 N.E. 7th Terrace, Gainesville, Fla. 32601, U.S.A.



## ПАДСУМАВАНЬНЕ

Калі пішуцца радкі нашага Падсумаваньня, гэтым завяршаецца выданьне 13-ае публікацыі. Пачалося ўсё ў 1967 г. выданьнем першае кнігі з трыма Плятонавымі дыялёгамі. У між часе перакладніцкая праца, як і выдавецкая выліліся ў хворму Беларускага Харытатыўна-Адукацыйнага Фонду, закладчыкамі якога сталіся Ян і Аліцыя Пятроўскія. Ведама, колькасьць выдрукаваных аркушоў паперы хоць і маюць сваё не малое значэньне, тым ня меней, факт гэты ня ёсьць найважнейшым. Найважнейшым ёсьць тое ў нашай дзейнасьці, што наш творчы парыў канцэнтруецца на антычнай грэцкай клясыцы, г. зн. на той творчасьці людзкага гэнія, якая ўзнаецца ўсімі думаючымі людзьмі, за як найболей важны фактар у падняцьці культурнага ўзроўню чалавека, і ягонае агляды.
У часе, калі падлічваем дакананае, аднача сна укладваецца плян працы на заўтрашні дзень. Ад значнага часу здадзена да друку і набіраецца ў друкарні адзін з двух большых дыялёгаў Плятона - Палітэя. Палітэя зьяўляецца каронаю творчасьці грэцкага філёзафа. Выхад у сьвет гэтага дыялёгу плянуецца на 1980 г. Пасьля сабраньня адпаведнага матэрыялу, чыняцца апошнія падрыхтаваньні да друку 2-га тому Лепшых думак чалавека. Кніга першая гэтае працы знайшла для сябе асаблівае ўзнаньне з боку беларускага чытача. Калі я кажу "мы", "наш", я маю на ўвазе шырокае кола энтузыястычных Чытачоў нашае літаратуры. І гэта ня будзе перабольшаньнем, калі я скажу, што ваш энтузыязм, Паважаныя Чытачы, і заахвочаньне для нас, каторыя тут працуем, зьяўляюцца стымулам у нашай працы. І за гэта ўсім Вам на гэтым месцы дзякую.

Ян Пятроўскі

страваньне душы людзей абтокі. Кіпросцы ня хочуць, каб іхны востраў быў ведамым сьвету з прычыны ваенных судыраньняў, закалотаў і спрэчак. Яны жадаюць сабе, каб іхная абтока была ведамаю, як цэнтр мірнага прагрэсу, цеснага сяброўства і аб'еднаньня. Яны жадаюць, каб ідэалы справядлівасьці, дэмакрацыі і свабоды, якія твораць сабою аснову Дэклярацыі Амэрыканскае Незалежнасьці, сталіся панаючым чыньнікам у іхнай краіне.

Ідэалы гэтыя заўсёды былі аснаўным паглядам у жыцьці кіпросцаў. Ідэалы гэтыя, як фактары,спрычыняліся да ацаленьня жыхароў абтокі на працягу іхнае доўгае і поўнае здарэньняў гісторыі. Кіпрос, магчыма, зьяўляецца сваеасаблівым гістарычным прыкладам краіны, якая была гэтак шмат добраслаўленаю, і адначасна, гэтак многа цярпела з прычыны ґеоґрафічнага палажэньня. Востраў паложаны на скрыжаваньні шляхоў трох кантынэнтаў - Эўропы, Азыі і Афрыкі, і стаўся мяжою праходу для людзей або месцам іхнага асяленьня ці вядзеньня гандлю. Некалькікратна ён падпадаў пад чужую ўладу, ягоныя багатыя рэсурсы эксплёатаваліся, і людзі дазнавалі гора і сталую зьменлівасьць долі. Але, ня гледзячы на гэта, краіна заўсёды праяўляла дух вытрываласьці і супраціву, і захавала свой характар і сваю тоеснасьць.Кіпрос заўсёды аставаўся верным самому сабе, свайму грэцкаму характару, які крысталізаваўся ад часу хвармаваньня самога гэльленізму ў духовую, культурную і нацыянальную існасьць.

Кіпросцы, нават астаючыся пад чужою акупацыяю,за выняткам кароткіх пэрыядаў свабоды і часу ўваходзінаў востраву ў склад Бізантыйскае Імпэрыі, працягвалі сваю культурную дзейнасьць і могуць быць гордымі з прычыны прыгожых прыкладаў іхных асягненьняў. У Мэтрапалітальным Музэю Мастацтва ў Нью Ёрку знаходзіцца вялікая калекцыя прыгожае кіпроскае старажытнасьці - калекцыя Цэсноля - якая пастарчае ўнікальны довад кіпроскае артыстычнае творчасьці.Практычна, усе большыя музэі на сьвеце, у сталіцах і местах некалькі дзесяткаў краін, перахоўваюць і выстаўляюць на паказ аграмадную масу кіпроскіх працаў мастацтва.

Гэта кажа нам пра долю, як і пра ґрандыёзнасьць і пышнасьць Кіпросу. Творы ягоных не вялікае колькасьці жыхароў - каля 650.000 сягоньня - прыгожа і спакойна ахвармаваных музэяў зьяўляюцца сьведчаньнем хвалы чалавека. Калі-б гэта было магчымым усе гэтыя архэолёґічныя скарбы вярнуць у іхную краіну -



XIPOKITIA.

XIPOKIЦIЯ зьяўляецца найстарэйшым і найболей важным нэолітычным аселішчам на востраве Кіпрос. Жыльлёвае ўладжаньне складалася з аднаго цыркулярнага памяшчэньня, падобнага да круглага пчалінага вульля – званага "то́лос". Археалёгічныя раскопкі выкрылі прылады працы, не дасьпелую яшчэ арнамэнтацыю, начыньне і ідалы з бронзы або андэзіту. – 6-тае мільленьніюм п.н.э.

месца іхнага стварэньня і першапачатку, Кіпрос аўтаматычна стаўся-б аграмадным музэем, музэем цэлае людзкасьці, і быў-бы апавешчаны сьвятым месцам аховы.

Кіпрос зьяўляецца вельмі малым востравам, ягоная контынэнтальная плошча - гэта толькі 9251 кв.км., болей, чымся адна тысяча разоў меншаю за Злучаныя Штаты. Яна павялічваецца, аднак-жа, дзякуючы сваім маральным і духовым вартасьцям, і гэтым стаецца значна большаю за сваю тэрыторыяльную плошчу.

Прысутнасьць гэтае Выстаўкі - Скарбы Кіпросу - у Злучаных Штатах паказвае на тое, што мы дзелімся і прызнаемося да прынцыпаў і ідэалаў, якія сталіся інспірацыяю для амэрыканскага незалежніцкага змаганьня, і былі ўпісанымі ў монумэнтальную Дэклярацыю Амэрыканскае Незалежнасьці.

Кіпрос праходзіць сягоньня праз найболей трагічны пэрыяд свае доўгае гісторыі. Калі-б прынцыпы Дэклярацыі Амэрыканскае Незалежнасьці, сьвяткаваньне двухсотлецьця якое прывяло нас сюды, былі затасаванымі сягоньня ў выпадку Кіпросу, тады праменьні сонца нашага неба ўвайшлі-б у сэрцы кіпросцаў і іхнае жыцьцёдайнае сьвятло азіяла-б краіну яшчэ раз.

Мы выражаем нашую асаблівую падзяку Службе Рухомае Выстаўкі Сьмітсонскага Інстытуту за яе цэнную помач і супрацу ў прадмеце арганізацыі і прэзэнтацыі гэтае Выстаўкі ў Злучаных Штатах. Кіпроская Амбасада ў Вашынґтоне і Амэрыканская Амбасада ў Нікосіі гэтаксама шмат дапамаглі ў гэтым кірунку. Падзяка гэтаксама выражаецца Адміністрацыі Двухсотлецьця Амэрыканскае Рэвалюцыі за яе падтрымку праекту выстаўкі.

Вестка, якую гэтая Выстаўка пераказвае амэрыканцам, ёсьць весткаю сяброўства, братэрства і супакою ад людзей Кіпросу.

Патроклёс Ставру,
Заступнік Сакратара
Прэзыдэнта
Кіпроскае Рэспублікі



Гляк, палітураваны на чырвона, упрыгожаны гарызантальнымі і вэртыкальнымі канцэнтрычнымі кругамі навакол плечаў і галоўнае часткі, і групова адпаведна пераплецены коламі. Хвігура быка на плячох на супрацьлежнай старане ручкі ў сярэдзіне простакутнае плошчы, перададзена белаю хварбаю з анатамічнымі дэталямі - чорнаю. Кіпро-архаічны II пэрыяд.

Вышыня: 32 цм.

# IMPLANTABLE TELEMETRY SYSTEM YIELDS CLUES ABOUT ARTHRITIS AND DEGENERATIVE JOINT DISEASE

An implantable telemetry system, which is capable of providing researchers with data about pressures and forces acting within joints of animals, will be used to acquire information that will lead to a better understanding of the normal functioning of these natural bearings. Such information should help explain how joints produce extremely low friction, and help increase knowledge about what goes wrong in such common pathological conditions as arthritis and degenerative joint disease.

This study of the functioning of joints operates through a $92,000 grant from the National Institute for Arthritis, Metabolic, and Digestive Diseases to the University of Florida, which began April 1, 1978 and runs for three years. The principal investigator is Dr. George Piotrowski, Mechanical Engineering,who will be assisted by Dr. R. W. Petty, Orthopaedic Surgery. The instrumentation that will be used in this study was developed using seed money provided through a Biomedical Research Support Grant from the National Institutes of Health to Dr. Harry Sisler of the Division of Sponsored Research at the University of Florida. Funds derived from this grant to Dr. G. Piotrowski were augmented by equipment funds from the Department of Mechanical Engineering at the University of Florida. The work proceeds through the Biomechanics Laboratory, which is a cooperative venture of the Departments of Mechanical Engineering and Orthopaedic Surgery, and is headed by Dr. G. Piotrowski.

Presently the function of the components of normal joints in mammals has not been satisfactorily explained. Various theories on the Mechanism of Lubrication ascribe differing functions to various joint components, such as the lubricating fluid, called synovial fluid; the cartilage; and the adjacent bone. These conflicting theories are based on model studies done outside the living environment, and therefore involve idealizations of what actually occurs within the joint. The

present study will focus upon determining what is actually happening within a living joint under normal conditions and using this information to infer function of the various joint structures.

An implantable pressure transducer with a sensitive face 3 mm in diameter will be used to provide information regarding the contact pressure between joint surfaces. This pressure sensor will be implanted in animals by drilling a hole through the underlying bone up into, but not through, the joint cartilage, such that the implanted pressure sensor has a thin layer of normal cartilage overlying the pressure sensor. In this way the sensor will not invade the joint itself. At the same time, several strain gages will be implanted on bones adjacent to the joint. These strain gages measure the microscopic elongation of the bone under load,and allow researchers to infer the type of loading that the bone is subjected to, using the SCADS computer program previously developed by Dr. Piotrowski. Up to six channels of information will be transmitted out of the animal via an FM telemetry system; the data will be recorded on magnetic tape,for subsequent decoding and analysis to relate the measured pressures to the loads experienced by the joint. Data will be acquired while the experimental animals are filmed as they walk or run. This combination of information on joint motion, joint forces, and pressures on joint surfaces will provide a fairly complete description of the mechanical events within living joints.

An understanding of normal function will quickly lead to insights into the prevention and treatment of pathological conditions. This interdisciplinary work in its early stages involves several undergraduate and graduate mechanical engineering students, and ultimately will involve both engineering and medical students and residents. To date, two publications and one masters' thesis have resulted from this activity. It is expected that the ultimate outcome of this work will be a better understanding of the functioning of joints and of some causes of the very common crippling diseases, arthritis and degenerative joint disease. G.P.

## ДА "РОЗДУМАЎ" МАРКА АЎРЭЛІЮСА

"Роздумы" Марка Аўрэліюса - гэта яшчэ адзін вынік супольнае працы людзей добрае волі, у выданьні Беларускага Фонду з датаю на 1978 год.

Пасьля ўважнага прачытаньня кніжкі будзіцца рад спасьцярогаў.

Разважаньні Марка Аўрэліюса - гэта, сярод іншага, гістарычны дакумант разьвіцьця філязафічна-тэалягічнае думкі, пачынаючы з найболей раньняе пары залатога веку старажытных грэкаў, і якая сягае таго пэрыяду, зь якім пачынаецца нашае часалічэньне.



Міхась Кавыль

Тое, што́ Марк Аўрэліюс нам кажа, цесна вяжацца з Плятонавым разуменьнем ідэі Бога. З гэтае ўжо прычыны зьмест "Роздумаў" павінен быць пазнаваны з паралельным чытаньнем Плятонавага дыялёгу "Пармэнідэс". У абодвых творах спатыкаем тую самую думку пра Адно, пра Цэлае, пра наяўнасьць у сусьвеце рэчаў, якія чалавек успрыймае пачуцьцямі, пра сусьветны кругаварот гэтых рэчаў, пра парадак /ко́смос/ у самым кругавароце. І ўсё гэта вечнае. - Існуе Розум у сусьвеце, які пранікае ўсё быцьцё: Гармонія чалавека з Розумам, і перась-




цераганьне правоў этычных, закладзеных Розумам, зьяўляюцца найвышэйшым імпэратывам чалавека. І ўсё гэта зводзіцца да простага цьверджаньня: Існуе Бог - і чалавек мае быць добрым.

Мае быць добрым? У якіх абставінах? Дзе межы та-

го, што чалавек называе дабром і злом? Дзе межы правільнага і памылковага? Веданьня і няведаньня?

На ўсе гэтыя пытаньні і падобныя М. Аўрэліюс у сваіх філязафічных развиважаньнях стараецца знайсьці адказ.

Ягоны адказ знайшоў сабе месца ў сусьветнай літаратуры. Факт гэты можа быць уважаны за прычыну ўвядзеньня "Роздумаў" у духовую беларускую скарбніцу.

---

Donations to The Byelorussian Fund are tax deductible

---

ДА АГУЛЬНАГА ВЕДАМА:

Некаторыя з нашых паважаных Сяброў і Прыхільнікаў, прысылаючы сюды лісты з далучаным чэкам /ці манэй ордэрам/, зазначаюць, што пэўная частка сумы грошай, выпісаная на чэку /манэй ардэру/ прадназначаецца для ніжэйпадпісанага за ягоны безінтэрасоўны ўклад у хворме апрацаваньня тае ці іншае рэчы да друку, а рэшта - на Беларускі Фонд. Ведама, я асабіста прыемна крануты праўдзівым зразуменьнем са стараны нашых Чытачоў што да майго асабістага ўдзелу ў Фондзе. Аднак, з прычынаў чыста прынцыповых, гэтакага распадзелу атрыманых тут грошай ніхто з працуючых у Беларускім Фондзе ўчыніць ня можа.

Пры гэтай нагодзе, хацеў-бы падчыркнуць, што кажная данацыя /ахвяра/, прысланая сюды, і ўсяроўна, выпісаная на імя ніжэйпадпісанага ці на Фонд, поўнасьцю пераліваецца на банкавае конта Беларускага Харытатыўна-Адукацыйнага Фонду. Гэтым асьведчаньнем, я хацеў-бы яшчэ раз сказаць, што кажны прыход фінансавы Фонду зьяўляецца нашаю агульнаю ўласнасьцю, і ніколі прыватнаю ўласнасьцю тае ці іншае асобы.

Тыя нашыя ахвярадаўцы, каторыя зацікаўлены ў зьняцьці ахвяраванае сумы на Беларускі Фонд зь іхнае сумы ападаткаваньня, павінны данацыі свае пераказваць чэкам або манэй ордэрам, выпісаным на імя **Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.**, бо толькі гэтакая хформа пераказаньня зьяўляецца мерадайнаю для адносных уладаў.

Я. Пятроўскі

## ФАКТЫ І ДАКУМЭНТЫ

+++ Die Evangelisch-Lutherische Kirche zu Wilna

У першым квартале 1974 году з прыватнае бібліятэкі Яна Пятроўскага была пераказана Беларускай Бібліятэцы і Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане /Англія/ кніга пад вышэй пададзеным тытулам у нямецкай мове.

Хутка пасьля гэтага з названае лёндынскае бібліятэкі надыйшоў афіцыяльны ліст, датаваны 6 сакавіком гг. з наступным зьместам:

Паважаны Доктар Пятроўскі, 6 сакав. 1974 г.

Пішу, каб шчыра падзякаваць Вам за кнігу Die Evangelisch-Lutherische Kirche zu Wilna (Wilna 1855), якую Вы ласкава прыслалі як падарак для нашае бібліятэкі. Наш аддзел царкоўнае гісторыі параўнаўча бедны на працы з гісторыі Рэфармацыі ў Беларусі і таму прысланая Вамі кніга зьяўляецца для нас вельмі цэнным набыткам.

З праўдзівую павагаю да Вас,
/-/ Аляксандар Надсон
Аляксандар Надсон,
бібліятакар.

Дар кнігі для Беларускае Бібліятэкі ў Лёндане быў - з боку ахвярадаўцы - актам, выражаючым далейшую спробу ўхіленьня плоту, пабудаванага ў нас "рэлігійнаю" прадузятасьцю, з мэтаю далейшага паглыбленьня супрацы ўжо на грунце н а р о д н ы м з аднолькаваю пашанаю, гэтак для каталікаў, праваслаўных, як і пратэстантаў.

На экзэмпляры гэтае кнігі ўласнаручна Пастарам Лёппэ ўпісаны словы ўспаміну перажываных намі гістарычных падзеяў у гадох 1939-1946:

Dem verehrten u. lieben Amtsbrüder J. Piotrowski zur fr. Erinnerung an gemeinsame Erlebnisse in Wilno - Linz [an der Donau]. - In brüderlicher

Verbundenheit,

S.[igfried] Loppe

Linz, den 18 Mai 1946.

+++ З прыватнага Архіву Пятроўскіх



Інтэрнат для беларускіх дзяўчат - студэнтак Віленскага ўнівэрсытэту і ґімназыстак Віленскае Беларускае Ґімназыі. Вільня. На фатаґрафіі ведамыя Рэдакцыі: у другім радзе зьверху, трэйцяя справа налева Маруся Скурка; апошняя ў гэтым радзе - студэнтка ўнівэрсытэту. У настыпным радзе ніжэй сядзяць зьлева направа: Зоя Скурка, трэйцяя - Місс Сальлі Л. Браўн, Джон Вітт, Бэрта Наўзнэр, перадапошняя Місс А. Г. Пайрон.

+++ З прыватнага Архіву Пятроўскіх




Н М – ініцыялы /лацінкаю/ аўстрыйскага разьбяра. Пагоня – разьба на дрэве. Лінц н/Дунаем; лягер ваеннапалонных, 1946. Тэкст пад Пагоняю здраджвае праблему беларускае лінґвістыкі.
Памер – 21,5x29,5 цм.

ПАМЕР ПРАФЭСАР ДР. ЯН ЛЮБАЧКА

Дня 23 ліпеня 1977 г. надыйшоў ліст сюды з Муррэйскага Штатнага Унівэрсытэту зь весткаю, што ў сераду 20-га ліпеня 1977 году памер др Ян Любачка, прафэсар гісторыі і расейскае мовы на Муррэйскім Штатным Унівэрсытэце.

У пакінутым па сабе тастамэнце нябожчык выразіў волю залажэньня на памятку ягонага імя стыпэндыяльнага фонду пры арганізацыі Беларускае Моладзі ў ЗША і гэтакага-ж фонду пры Муррэйскім Штатным Унівэрсытэце, Муррэй, Кэнтукі, нічога ня кажучы пра іншыя запісы ў ягоным тастамэнце.

На просьбу др Джэймса В. Гаммак'а падаем гэтым зьмест названага ліста да публічнага ведама /б./15/.

Пра сьмерць і тастамэнт, пра шмат грошай і прабуджаныя спадзеі ўжо ўспаміналася ў "Беларусе". У "Беларускай Моладзі" /№ 2,3 за 1978 г./ чытаем у ангельскай мове артыкул Раісы Станкевіч п.т. Visit to Murray. Сам артыкул ёсьць стэрэотыпічным для падобных справаў. Аднак апошні абзац у ім прыцягвае да сябе ўвагу чытача, бо ў ім закранаецца квінтэнсэнцыя ўсяго. Гасп. Раіса Станкевіч і гасп. Ю. Азарка разам разважаюць, пры чым аўтар артыкулу кажа: "Вяртаючыся дамоў, мы ўкладваем пляны адносна таго, як найляпей выканаць волю др Любачкі. Гэта вельмі важна, бо сама справа адносіцца да адукацыі маладых Беларусаў у прадмеце беларусаведы і тых дысцыплінаў, якія вяжуцца зь ёю".

Так, гэта вельмі важна, калі фонд мае служыць беларускім справам. Інакш, станецца тое, аб чым гаворыць ангельскае выслоўе: "Калі молішся, будзь асьцярожным, бо Бог можа пасланць табе тое, што ты просіш". Гэта тым болей важным ёсьць, бо Беларусы ў ЗША ўжо маюць за сабою не адно дасьведчаньне ў аналягічных дачыненьнях.

У сувязку з падобным прадпрыняцьцем, выступае цэлы рад першараднае важнасьці пытаньняў, а зь іх у першую чаргу, напрыклад, Хто будзе навучаць? І што навучаць у вапрычонасьці?

Хто-небудзь можа на гэтым месцы запытаць: На якім абаснаваньні мы займаемся інґэрэнцыяю ў справах трэйціх арганізацыяў? - Ведама, тут найвышэйшым аўтарытэтам ёсьць воля др Я. Любачкі. Ніжэйпадпісаны пераканаты, што зьмест гэтага артыкулу адказвае і пакрываецца з волею Закладчыка фонду. Фонд гэты ня будзе зьяўляцца ўласнасьцю аднае асобы, але будзе

/Працяг на б. 26/



**Murray State University**

College of Humanistic Studies
Department of History
Murray, Ky. 42071 (502) 762-2231

July 21, 1977

Mr. John Piotrowski
1716 NE 7th Terrace
Gainesville, FL 32601

Dear Mr. Piotrowski,

It is my sad duty as a friend and colleague of Professor Ivan S. Lubachko, to inform his friends and associates of his unfortunate death on Wednesday, July 20. Since you were among his numerous correspondents, I was certain you would want to be notified of this unhappy event.

You might also wish to know that Ivan suffered no prolonged illness. Instead, as he might have wished, he suffered a sudden and unexpected stroke in his classroom on July 18 while performing the duties of his chosen profession. He was taken immediately to the hopsital, where he remained alert and rested comfortably until the early morning of July 20 when, as a result of a second stroke, he passed quietly away.

Funeral services for Ivan will be held in Murray, Kentucky, on Friday, July 22 at 10 a.m. I am sorry that this letter will not reach you until after those services have been held. It was Ivan's wish, however, that a scholarship fund be established in his name with the Byelorussian Youth Organization. In addition, a scholarship is also being established in his name at Murray State University. For those of his friends who wish to express their sympathy through a contribution to one of those funds, the appropriate addresses are:

Ivan S. Lubachko Fund, Byelorussian Youth
P.O. Box 309
Jamaica, New York
11431

or

Ivan S. Lubachko Scholarship
History Department
Murray State University
Murray, Kentucky
42071

Before closing, I would also like you to know that while every effort has been made to discover the addresses of Ivan's many friends and close acquaintances, it is possible that some persons who would like to be notified have been overlooked. I hope, therefore, that you will share this unfortunate news with any other of Ivan's friends whom you think would want to be informed.

Sincerely yours,

James W. Hammack, Jr.

James W. Hammack, Jr.

## VOX POPULI, VOX DEI

MOTTO: Do you wish to be an author? Do you wish to make a book? Remember that it must be new and useful, or at least have great charm...

If you have written a history of your own time, doubt not you will find some learned chronologist, or newspaper commentator, who will catch you up on a date, a Christian name, or a squadron which you have wrongly placed at a distance of three hundred paces from the place where it was really posted. Be grateful, and correct these important errors fortwith.

If an ignoramus, or an empty fool, pretends to criticize this thing or the other, you may properly confute him; but name him rarely, for fear of soiling your writings. If you are attacked on your style, never answer; your work alone should reply.

Voltaire

Dear Mr. Piotrowski:

Sincere thanks for sending me your translation of Plato's Dialogues; and this is from myself. I think you deserve still greater thanks from the entire Byelorussian world for this enrichment of ours, the more so considering our sorry bookmarts and your lovely and accurate translations.

A. S.

To the Byelorussian Charitable Educational Fund.
Dear Brethren:

According to my financial ability, I am sending you a donation for your next publication, and at the same time, I thank you for sending me Man's Best Thoughts and Anagraphs.

All of it is beautiful and intelligent. It is unfortunate that something similar was not available earlier amongst our immigrants, when there were more of us who could read in Byelorussian.

January 8, 1979 A. Asipovich

In the relatively short time which has elapsed since the re-emergence of Byelorussian as a national literary language at the beginning of the present century, there has been a dearth of translations from the great classical works of

antiquity. It is therefore an encouraging sign to find Pastor Piatrouski venturing into this neglected field with his translations of Plato's Defence of Socrates, Krito, and Phaidon. In an explanatory foreword the translator gives details of the lives and work of Plato and Socrates, and a brief outline of their philosophy. The translation is proficient and the style is, generally speaking, good. Its appearance is all the more welcome, since virtually nothing has been done in this field by Byelorussian classicists in the Soviet Union.

The Journal of Byelorussian Studies

Dear John:

It has been a real joy to see how you have carried on your White-Russian translations. They are truly worthwhile achievements and you can be justly proud of them. Your useful life and that of your family has given me deep pleasure.

August 31, 1978 [Dr.] Gaither [P. Warfield]

I am very, very grateful to you for sending me the valuable and well executed book "Selected Dialogues" of Plato.

Theodor Shybut

Sincere thanks to you for such a valuable book with your truly lovely translation. I congratulate you from the bottom of my heart. May God help you with further fruitful translations.

Fr. John Tarasewich

Sincere thanks to you for sending the book Selected Dialogues of Plato. The book makes a good impression. Surely it was a lot of work for you to translate this and present it so accurately.

Jan Zaprudnik

Similarly I say to you that you have done the Byelorussian community a big service by making such an important contribution to the Byelorussian culture. I appreciate the difficulty you had in translating a philosophical classical work into our modern Byelorussian language, since this is a first in our language!

In my opinion you have done a good job on the

book overall and specifically with regards to the content. Congratulations!

Rev. F. J. Hermanovich

Sincere thanks for "Plato"--The book is exquisitely translated, alive,beautiful Byelorussian language; I can imagine how much work and money it cost you to produce such a beautiful book.

A. Kachanouskaja

Dear Doctor,

Sincere thanks for your sending me Plato's Gorgias. I am very impressed with the importance and worth of your pioneer work. I should also especially single out your well-written Foreword.

I hope that this is not your last work. I wish you Godspeed with the next one.

L. Halak

Dear Mr. Piotrowski:

It was very thoughtful of you to send me your translation of Plato's Protagoras and Greater Hippias, and of The Universal Declaration of Human Rights into Byelorussian. You are certainly doing a commendable job for your people.

With all best wishes, I remain
Admiringly yours,
John E. Rexine, Ph.D.
Director, Div. of the Humanities
Professor of the Classics
Colgate University, Hamilton, New York

Many thanks for your book Man's Best Thoughts. I just finished reading it, and I think it will be accepted in the Byelorussian community with wonder and fruitful contemplation, because truly this is a momentous work. I am especially sorry that the book did not catch our good colleagues when they were yet alive, including Fabian Abrantovich, last heard from in 1943, and Andrew Cikota, last word heard in 1952. One must also mention the young, having lived only forty years, Anton Padziava, who was imprisoned 3 years, and his brother, Tamasz Padziava, who spent 13 years in Harbin (Pinkiang, China today) where he worked at the Lyceum of St. Nicolas and during his last years here in London, where he died two years ago. The latter was a devout reader of your work concerning the world

of Plato's philosophy. All those mentioned were persons with philosophical inclinations, especially Fabian Abrantovich and Tamasz Padziava. The latter was facile with languages--Byelorussian, Polish, Latin, German, Italian--but died at 69 years of age.

Now concerning your book: the contents are always pertinent and useful, a well thought out, deep work of culture, especially in the midst of the Byelorussian immigrants, and I personally take it as a surprise gift at my age.

February 6, 1978 Father Hermanovich

Sincere thanks for sending me "Plato--Selected Dialogues"... You did a great work, publishing Plato in Byelorussian. The Byelorussian community should be grateful to you.

S. Zamojda

This book [Plato's DEFENCE OF SOCRATES, CRITO and PHAEDO] testifies to the fact that you have performed a great task. I congratulate you and wish you further success.

Ivan Lubachko

The attention of everyone interested in the development of Byelorussian culture should be drawn to the pioneering work being carried out in Florida by Pastor Jan Piatrouski. This volume is the third in the series of Plato's dialogues, translated into Byelorussian by him. The first volume appeared in 1967 and contained THE DEFENCE OF SOCRATES, CRITO and PHAEDO. The second volume published in 1970, contained SYMPOSION and ION, and the first edition of the Greek-Byelorussian vocabulary, the second edition of which is bound with the GORGIAS.

The cultural level attained by a language and the people that use it can frequently be better judged by the works translated into it than by original works. When looking at works of literature of the 16th-century European Renaissance it is often quite impossible to draw the line between translation and original, simply because the writers themselves did not differentiate. So it is that creative translations become part of the native cultural heritage. When the translations are of works of the great Greeks they become

doubly important, because they introduce new readers to some of the most fundamental philosophical questions which still affect modern life (this is a point made by the translator in the introduction) and develop the language's powers of philosophical expression. Byelorussians everywhere owe a debt of gratitude to Pastor Piatrouski for his unstinting efforts in making Plato speak their language.

J. Dingley
Journal of Byelorussian Studies,3(#2):199-200,1974

Sincere thanks for the book you sent us. Excellent work, and very much needed in our Byelorussian philosophical sector.

Vitaut and Zoja Kipel

At this opportunity I think it is appropriate, as an aside, to say something about the actual translation, since I once read these works in French. I don't know who did the translation into the Byelorussian language but, not even referring to the content, the translation was done very beautifully. Incidentally, while I was reading this work, I became enthusiastic about the Byelorussian language and was reminded of "Novaja Ziamla" [New Land by Janka Kupala],such is the vitality and fluidity of the Byelorussian language. Someone had to exert themselves on this translation. In the entire book I found three Polonisms, but what do three Polonisms matter when one finds more than three Russisms in New Land. I am only surprised that to date none of our linguists has produced an appropriate critique of this translation.

Ul. Bakunovich

Dear Mr. and Mrs. Piotrowski!

Congratulations! Thank you for the Christmas message and the enlightening, useful speculations about time. In general, thank you for all the books you have sent me. Recently we received Man's Best Thoughts and Anagraphs. Good God! How it's all so useful, interesting, magnificent. I am reading it bit by bit. I was especially moved as you included Bahdanovich and some of our poets. Thank you. I marvel and gladden myself with your

achievements, both scholarly and those regarding your organization.

Accept my sincere wishes for further success and good health.

Mrs. A. Savionak

Sincere thanks for sending me the book by Plato--Selected Dialogues, Gorgias.

I am reading with enthusiasm and wonder over the wisdom expressed by great men, and at the same time in a beautiful and rich Byelorussian language.

It is almost the first time since immigrating that I have had the opportunity to read the works, in which the Byelorussian language is so melodioulsy praised.

It seems almost all the words are of common usage, but you have created a powerful melody like an able composer creates music from commonly known notes.

For that you deserve great honor.

January 19, 1973 Vitali Cierpicki

A book---with such serious subject matter that one had to do one's best to make it appear substantial, which was quite evidently done.

About the translation: The work was done very solidly, the language is drawn from the south Byelorussian dialects, which does not evoke any dissonance but quite the opposite---it sounds rather pleasant. One feels that the translator had many difficulties in finding appropriate terms in the philosophical terminology, but he wound up with an excellent result.

In general, a difficult task was very skillfully performed. Unexpectedly, the Byelorussian community had its impoverished culture enriched, thereby taking a decisive step forward!

Plato--a worthwhile book, which every emigrant should strive to obtain immediately: he will find no dearth of profound thoughts which, over twenty-four centuries, have comforted and enriched human souls and entire nations.

"Božym Šlacham"

Дарагі Ян! І6 лютага І979 г.

Тваю кніжку "Лепшыя Думкі Чалавека" атрымаў, за што шчыра дзякую. Прачытаў усю. Напісана прыгожаю беларускаю моваю, чытаецца безь ніякага напружаньня, лёгка і можа зацікавіць ня толькі тых, хто любіць філязафічную літаратуру, але, нават, і тых, хто зусім ня цікавіцца падобнага роду зьместам.Матэрыял падабраны вельмі цікавы, жыцьцёвы, які захоплівае чытача й заахвочвае да далейшага чытаньня. Гэта кніжка - ня што іншае, як прыгожы й цікавы "Лемантар", пасьля якога кажны пачынае думаць і цікавіцца філязафічнымі праблемамі. Гэтаю кнігаю Ты зрабіў яшчэ адзін уклад у Скарбніцу Беларускае Літаратуры. Моцна цісну руку ды шчыра жадаю далейшых посьпехаў у тваей навуковай працы на беларускай літаратурнай глебе.

Твой, Алесь Змагар

\+ + + У перакладзе др. Яна Пятроўскага з грэцкае мовы, а выданьнем Беларускае Друкарні ў ЗША, выйшла кніга: "ПЛЯТОН. ВЫБРАНЫЯ ДЫЯЛЁГІ /АБАРОНА САКРАТАСА, КРЫТОН, ФАЙДОН/". Сыракюз, Н.-Ё., І967. 2І0 б. Як сьветчаць атрыманыя перакладнікам лісты, кніга была добра ўспрынятая чытачамі.

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
Whiteruthenian Institute of Arts and Sciences
3441 Tibbett Avenue, New York, N.Y. 10463

А Б Е Ж Н І К № І5 Сьнежань І968г.

Глыбокапаважаны Сп. Пятроўскі!
Кніжку Вашу атрымаў, вельмі дзякую. Кніга цікавая й добра аформленая. З большага ўжо пазнаёміўся са зьместам. Цяпер пачну чытаць больш павольна. Вам трэба разаслаць яе ва ўсе беларускія асяродкі. Шкада, што яе ня было ў "Менску" на адчыненьні сэзону.Там цяпер бывае шмат нашых людзей, і, я думаю, што яна там будзе разыходзіцца. На "Labor Day" у Канадзе будзе зьезд беларусаў Злучаных Штатаў і Канады, не прамінеце выпадку пасланць колькі экзэмпляраў і туды.

І8/VII І968 г. З глыбокай пашанай,

Е. Кіпель

II. 2. I969 г.

Высокадастойны Войча [Ян Пятроўскі]!

Удзячны вельмі за ласкавы Ваш цікавы ліст з 3.2. I969 г. з інфармацыямі пра далейшую Вашую працу ў галіне перакладаў з грэцкае мовы ды рэакцыю на Плятонавы дыялёгі чытачоў. Якія-б хто не знаходзіў недасканальнасьці й заганы ў гэтым перакладзе, адна рэч пэўная, што гэта важная піянерская праца й заслугі пяршынства ў гэтай галіне ніхто ўжо Вам не забярэць, гэтаксама, як і заслуга апрацаваньня й выданьня першага Ангельска-беларускага /і тымчасам адзінага/ слоўніка застанецца за Вамі, а, як бачу з Вашага апошняга ліста, хутка можна будзе вітаць і зь яшчэ адным піянерскім дасягненьнем – апрацаваньнем і выданьнем першага Грэцка-беларускага слоўніка. Прыймеце мае пажаданьні далейшых каштоўных дасягненьняў на ніве беларускага пісьменства.

У глыбокай пашане,

Вітаўт Тумаш

Паважаны Доктар Пятроўскі! 25 чырвеня I975 г.
Сардэчна дзякую за Плятонавую кнігу з двума дыялёгамі: Протаґорас і Гіппіяс вялікшы. Гэта вялікія працы. Гэткасама Унівэрсальная Дэклярацыя Правоў Чалавека цудоўная рэч!
Відаць з усяго, што Вы працавалі надзвычай многа , каб перакласьці на беларускую мову гэтулькі кніжак.
I трэба дадаць, што падобная праца ў беларускай мове вельмі патрэбная нам.
Хай Вам Бог дае здароўе на многія году.

З пашанаю да Вас,

Кастусь Верабей

Вельмі Паважаны Сп. Пятроўскі, Оттава, 8.7. I973
З прыемнасьцяй і ўдзячнасьцяй атрымаў Плятонаў "Ґорґіяс" у перакладзе на беларускую мову.
Жадаю шмат посьпехаў у далейшай працы.

У глыбокай пашане,

Я. Сурвілла

# ЛІСТ ДА РЭДАКТАРА "БЕЛАРУСА"

Яго Міласьці 16 сакавіка 1978 г.
Паважанаму
Др Станіславу Станкевічу
ў Нью Ёрку

Глыбокапаважаны Доктару:

Часта здараецца, што доўгія гутаркі між людзьмі пакідаюць пасьля сябе малы зьмест, і наадварот, кароткія – вялікі.
Гэтае апошняе знайшло сваё пацьверджаньне ўдню 21 травеня 1977 году ў часе Другога беларускага фэстывалю, ладжанага ў гэтым дню ў Гольмдэль, Н. Дж., у нашай /паміж Вамі і мною/ кароткай канвэрсацыі, якая мела прыблізна гэтакі прабег /ведама, без стэнаґрафічнага запісу/:

– Я рад бачыць вас, – сказаў я, – і пагаварыць з вамі. Мяне цікавіць, як можна болей сказаць на бачынах "Беларуса" пра працу і высновы, зьвязаныя зь беларускімі дыялёгамі Плятона?

– Бачыце, спадар Пятроўскі, – адказалі Вы, – нашыя людзі ня чытаюць гэтага.

Гэтакая была квінтэнсэнцыя нашае нешматмоўнае гутаркі. Пасьля кароткае паузы, ратуючы, як гэта кажацца, твар, мы яшчэ перакінуліся некалькімі сказамі, у тым сэнсе, што Вы не выключаеце магчымасьцяў друку, а я – магчымасьцяў надасланьня матэрыялу.
Пасьля гэтага я астаўся пад сільным уражаньнем зьдзіўленьня. Падобная апінія можа мець месца сярод некаторых людзей, але ці павінны гэтакую апінію падзяляць людзі на адказных становішчах, у гэтым я не перакананы. Усё гэта ўзята разам гучыць для мяне балюча і не дае мне супакою. Тут і ляжыць прычына, чаму я пішу да Вас. Магчыма, каб "выспавядацца" і займець супакой душы.
Гэта праўда, што зьмест дыялёгаў не зьяўляецца штодзеннаю лектураю нават і ў васяродзьдзі г.зв. заавансаваных супольнасьцяў. Нехта з англамоўных камэнтатараў у галіне плятанізму засаромеў мяне. Ён казаў: Уціскаць дыялёгі Плятона ў рукі кажнага чалавека – гэта барбарства. І гэта якраз тое, што я практыкую на працягу звыш дзесяці гадоў. Я ведаю, што я "барбар", але я ня маю ніякага іншага выхаду.
– Давайце паглядзімо на справу зь іншага пункту гледжаньня: Шматлікія людзі, ня выключаючы ані Вас, ані мяне, добраахвотна ідуць пад нож хіруґа, ве-

даючы загадзя, што яны многім рызыкуюць, паддаюцца цярпеньням: уколы, скальпэль, інтэрвэнусы і падобнае, дый да гэтага плоцяць яшчэ вялікія грошы. Чаму яны гэта робяць? - Адказ тут вельмі просты: яны спадзяюцца, што там, далёка на канцы іхнага цярпеньня яны знойдуць здароўе сваё, жыцьцё.
Я прывёў гэты прыклад, бо ён найляпей ілюструе нам аналёгію, калі ідзе гутарка пра дыялёгі Плятона.
Гэта праўда, што існуюць між намі і тагія, што ня чытаюць гэтага, але абавязкам нашым /Вашым у першую чаргу, як рэдактара, а пасьля маім/ заахвоціць іх да чытаньня і думаньня, без чаго нямашака нацыянальнага збаўленьня.
Калі я пішу гэты ліст, перада мною стаяць 54 томы г.зв. Вялікіх Кнігаў у ангельскай мове, з праблізна васьмюдзесяцьцю імёнамі, пачынаючы ад Гомэра і канчаючы Фройдам. Гэта прадстаўнікі нашае заходняэўрапэйскае культуры. І я дзіўлюся, як мала з культурнае спадчыны гэтых людзей уведзена ў беларускую культурную скарбніцу.
Ці падобнае палажэньне рэчаў між намі мае астацца на векі вечныя?
Ведама, зьмест гэтага ліста ня трэба інтэрпрэтаваць, як дамаганьне з мае стараны на ўваход на шпальты "Беларуса", або, як апалёгія плятанізму. Гэта было-б сьмешным з мае стараны, і ў першую чаргу, паніжаючым беларускую годнасьць.
Аднак, ліст гэты павінен быць уважаны, як спроба адлюстраваньня культурных настрояў сярод нас на эміграцыі.
Я спадзяюся, што ліст мой застане Вас пры добрым здароўі і карыснай працы.
Лучачы словы пашаны і пажаданьні посьпехаў у працы, прасіў-бы Вас пераказаць нашыя вітаньні для Вашае Пані і Раісе.

Ваш,
Ян Пятроўскі

---

Існуюць творы, дзеля рэдагаваньня якіх вымагаецца болей ведаў, чымся можна спадзявацца ў аднаго чалавека.

Д. Дзідро

Фондам усіх беларусаў, і яны, кіруючыся Статутам Фонду, выбірацімуць цела адміністрацыйнае, якое будзе адказным перад імі.

Мы толькі хацелі-б на гэтым месцы пажадаць усім нашым Суродзічам, сузграмаджаным навакол ідэі адукацыі беларускае моладзі, добрых посьпехаў на шляху, як дагэтуль, у нас новым, які вымагаціме ад цэлае грамады ўзаемнае супрацы, добразычлівасці і добрую торбу цярпеньня.

\-

Аднойчы, было гэта ўлетку, прыблізна год часу перад выхадам у сьвет Belorussia Under Soviet Rule , я меў нагоду спаткацца зь Любачкам у Сыракюзах, Н. Ё., і мець зь ім пяцігадзінную дыскусію на розныя, кранаючыя нас тэмы. Але пра гэта наступным разам.

Ян Пятроўскі

---

СТАРАЖЫТНАЯ ГРЭЦКАЯ КЛЯСЫКА

Пад гэтакім тытулам накладам Беларускага Харытатыўна-Адукацыйнага Фонду выйшла нядаўна з друку праца, аўтар якое, Ян Пятроўскі, займаецца некаторымі аспэктамі грэцкае клясыкі, якая можа і павінна знайсьці сваё водгульле ў сучаснай беларускай пісьменнасьці. Гэтая праца - гэта, зь нязначнымі дапаўненьнямі, зьмест рэфэрату, які, на запросіны гасп. С. Карніловіча, быў прачытаны аўтарам у нядзелю 19 жніўня 1979 году ў Грамадзкім Цэнтры Полацак /ЗША/ перад адумысна запрошанаю аўдыторыяю. Пасьля прачытаньня рэфэрату, некаторымі з прысутных у залі была выражана думка, каб выдаць рэфэрат друкам, штo, у хворме невялікае кніжыцы гэтым падаецца да ўвагі добразычлівага беларускага чытача.

---

Дом, у якім няма [лепшых] кнігаў, падобны да цела, пазбаўленага душы.

Цыцэрон

## РЭФЭРАТ ПРА СТАРАЖЫТНУЮ ГРЭЦКУЮ КЛЯСЫКУ

Дня I9 жніверя ў нядзелю 1979 году ў Грамадзкім Цэнтры Полацку др Ян Пятроўскі прачытаў апрацаваны ім рэфэрат на тэму Старажытная Грэцкая Клясыка.

Лічна зграмаджаная аўдыторыя ўважна праслухала рэфэрат.

Мэтаю прэлегэнта было запазнаньне прысутных з гістарычна культурным павязаньнем паміж старажытнымі Атэнамі і нашаю сучаснаю культурнаю рэчаіснасьцю.

Думка пры гэтым была выражана, што старажытная грэцкая спадчына крые ў сабе наўзорнасьць для тых, што жывуць пасьля выяўленьня ёю Залатога Веку.

Наўзорнасьць гэтая заключаецца ў зразуменьні і прысваеньні сабе сутнасьці гэтакіх ідэалаў, як ідэя навукі і найлепшага тасаваньня пазнанага ў нашым сучасным г.зв. тэхнолягічным веку.

Навука і свабода ў сучасным жыцьці павінны ісьці ўпары: бо там, дзе няма навукі, там няма свабоды, і там, дзе няма свабоды, няма навукі ў поўным сэнсе гэтага слова.

Грэцкая клясыка, - чулі прысутныя на залі, - гэта новае ў нас выражэньне філязофіі, гэтак, як калісь яе старажытныя грэкі разумелі.

Пераходзічы да паняцьця Рэнэсансу, прэлеґэнт увёў новае ў тым сэнсе, што, паклікваючыся на др Піліпа Гіцьці, прафэсара сэміцкае літаратуры на Прынстонскім Унівэрсытэце, арабы ісьлямскія ў сваей мінуўшчыне бадай першыя згралі да пэўнае ступені ролю ў адкрыцьці вялікае антычна-грэцкае спадчыны. Яны пачалі прысвойваць гэтую спадчыну сабе, творачы зусім новую для іх культуру і гэтым самым, падрыхтоўваючы грунт для Рэнэсансу ў заходняй Эўропе.

Прэлеґэнт першы раз перад намі адсланяе гістарычную заслону на факт, як, пачынаючы з 750 году, першапачаткава пад кіраўніцтвам аль-Мамуна, арабы, сярод іншага, пакліваюць да жыцьця сваеасаблівую навуковую ўстанову пад назовам - Дом Мудрасьці. Дом Мудрасьці - гэта культурная ўстанова, якая прадстаўляла сабою камплекс, які складаўся з Бібліятэкі, Акадэміі і памяшчэньня для перакладчыкаў. Дом Мудрасьці праіснаваў каля ста гадоў.

Зь якою зацікаўленасьцю і сур'ёзнасьцю арабы адносіліся да грэцкае клясыкі, сьведчыць факт, што за дакананыя для іх пераклады яны плацілі перакладчы-

кам золатам у памеры вагі самога манускрыпту перакладу.

Апіраючыся на сьведчаньне ангельскага гісторыка I8 ст., Эдварда Ґіббона, прелеґэнт падчырквае той факт, што зьбліжэньне з грэцкаю клясыкаю арабскіх бэдуінаў - сыноў, узгадаваных сярод жывёлы і пяшчанае пустыні - прывяло да зьіначаньня налепшае іхнага духовага і вонкавага аблічча.

Паводля ацэны некаторых гісторыкаў кульмінацыйным пунктам для Рэнэсансу на Захадзе, стаецца пара Крыжовых паходаў. Удзельнікі хрысьціянскіх ваенных экспэдыцыяў прыходзяць у поўны кантакт са сьветам музульманаў, з аднаго боку, а з другога - імкненьне да выхаду з душнае атмасфэры сярэднявечча, прыводзяць народы заходняе Эўропы да бліжэйшага пазнаньня зьместу працаў Арыстотэлеса і сустрэчы з творчасьцю вялікага Плятона і ягонага вучыцеля - Сакратаса.

Са зьместу выслуханага рэфэрату выплываў лягічны высноў, што тая мудрасьць, якая была добраю калісьці для чысьленых народаў сьвету і прывяла да Адраджэньня і расьцьвету іхных культураў, астаецца гэтаксама добраю і для беларускага народу сягоньня.

Прэлеґэнт канчае свой фэфэрат пасусам, узятым зь беластоцкае "Нівы" з дня 23 студзеня I979 г. Тут знаходзім інтэрв'ю рэдакцыі з панам Ежым Зэґальскім, дырэктарам і рэжысёрам у тэатральным мастацтве.

З цэлага раду адказаў на пытаньні ўзьнікала ўяўленьне чытача аб выдатных асягненьнях дырэктара.

Аднак, найболей характэрным і з прысмакам філязафічным быў ягоны адказ на апошняе пытаньне:

- Скажэце, калі ласка, - быў ён запытаны, - калі вы маеце поўнае асабістае задавальненьне?

- Ніколі і ні ў чым, - адказаў Зэґальскі. - Лічу, што заўсёды і ўсё можна зрабіць яшчэ ляпей, чым яно было зроблена.

П. і Я.

Кліўлянд, 2I жніўня I979 г.

ЯН ПЯТРОУСКІ

# СТАРАЖЫТНАЯ ГРЭЦКАЯ КЛЯСЫКА



Metropolitan Museum of Art, N.Y.

Іктынос і Кальлікратэс.
Партэнон. Акрополіс у Атэнах.
5-ае стагодзьдзе п. н. э.



1979

ПАЗНАЙЦЕ СТАРАЖЫТНУЮ КЛЯСЫЧНУЮ ЛІТЭРАТУРУ
ў перакладзе на беларускую мову

-

Дыялёгі Плятона:
Кніга першая, 1967 - наклад вычарпаны.
Абарона Скратаса, Крытон, Файдон.
Кніга другая, 1970 -
Сымпозыён, Іён, з дадаткам Грэцка-беларускага слоўніка.
Кніга трэйцяя, 1973 -
Ґорґіяс, з дадаткам папраўленага і пашыранага Грэцка-беларускага слоўніка. -
Кніга чацьвертая, 1975 -
Протаґорас, Гіппіяс вялікшы.
Кніга пятая, 1976 -
Пармэнідэс, Мэнон.

-

Роздумы Марка Аўрэліюса:
Чытайце філязафічныя разважаньні Марка Аўрэліюса п.т. Роздумы ў перакладзе Міхася Кавыля на беларускую мову.

-

У 1977 годзе выйшла з друку праца Яна Пятроўскага п.т. Лепшыя Думкі Чалавека. Гэтая нештодзенная сваім філязафічным зьместам кніга павінна знайсьціся ў кажным беларускім доме.

-

Кажны чалавек, дзеля пазнаньня сваіх правоў і паглыбленьня свае юрыдычнае сьведамасьці, павінен запазнацца са зьместам нядаўна выдадзенае працы п.т.:
УНІВЭРСАЛЬНАЯ ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА
ў перакладзе на беларускую мову Яна Пятроўскага. Зьмест Дэклярацыі Аб'еднаных Нацыяў - гэта вобраз палітычнага і духовага ўладжаньня будучае людзкае сям'і на нашай плянэце. Памятайце, што толькі сьведамасьць чалавека гварантуе яму месца сярод людзей.

---

Выйшла з-пад прэсу нядаўна новая кніжыца п.т.
СТАРАЖЫТНАЯ ГРЭЦКАЯ КЛЯСЫКА

-

Ангельска-Беларускі Слоўнік, ратататарнае выд., каля 4.000 словаў, Ян Пятроўскі, 1946, Лінц/Дунаем, Аўст. $5.00

-

АНАҐРАФЫ - афіцыяльны часапіс Беларускага Харытатыўна-Адукацыйнага Фонду, №№ 1, 2-3.
Выпісваць: Byelorussian Charitable Educational Fund
1716 N.E. 7th Terrace
Gainesville, Florida 32601, U.S.A.